 

## ТУРКМЕНСКАЯ САВЕЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА

Туркменская ССР утворана і ўвайшла ў склад Саюза ССР 27 кастрычніка 1924 г. Тэрыторыя — 488,1 тысячы кв. км, насельніцтва — 2 мільёны 293 тысячы чалавек. Сталіца — Ашхабад (226 тысяч жыхароў).

Большую частку тэрыторыі рэспублікі займае пустыня Каракумы (каля 80 прац.), на поўдні — горы Капетдаг, на паўднёвым усходзе знаходзяцца адгалінаванні Гісарскага горнага хрыбта, заходняя частка рэспублікі — гэта прыкаспійская нізіна.

Самая вялікая рака — Амудар'я. Яна працякае па ўсходняй ускраіне рэспублікі. У пустыні Каракумы знаходзяцца аазісы. Вялікае значэнне для гаспадаркі маюць падземныя воды, якімі багаты нетры рэспублікі. Клімат рэзка кантынентальны з гарачым, сухім летам і мяккай, маласнежнай зімой, часам зіма бывае надта халодная.

Нетры Туркменскай ССР багаты карыснымі выкапнямі, перш за ўсё нафтай і прыродным газам. Нафтагазаносная вобласць працягваецца ад Каспійскага мора да ракі Амудар'і. Серка, калійная і каменная солі знаходзяцца на паўднёвым усходзе рэспублікі. У каспійскім заліве Кара-Багаз-Гол ёсць адна з самых багатых на свеце залежаў глаўберавай солі. У гарах Капетдага — залежы барыту і вітарыту. Апрача гэтага, рэспубліка багата рудамі розных металаў і будаўнічымі матэрыяламі.

## ВЯЛІКІ КОНКУРС




Галоўнае месца ў эканоміцы Туркменскай ССР займае здабыццё нафты (трэцяе месца ў СССР пасля РСФСР і Азербайджанскай ССР) і яе перапрацоўка. Здабыты ў рэспубліцы прыродны газ забяспечвае не толькі яе патрэбы, але па магутных газаправодах накіроўваецца на Урал і ў цэнтральныя раёны РСФСР. Развіта таксама хімічная прамысловасць, машынабудаванне, лёгкая і спажывецкая прамысловасць. Славяцца надзвычай прыгожыя туркменскія дываны.

Сельская гаспадарка абапіраецца на навадненне паўпустынных і пустынных абшараў. Для гэтай мэты ў апошнія гады пабудаваны Каракумскі канал імя У. І. Леніна. Даўжыня канала — 860 км. У Туркменскай ССР вырошчваецца бавоўна, вінаград, паўднёвая садавіна і гародніна, збожжавыя культуры. Туркменскія. сяляне займаюцца шаўкаводствам і гадоўляй каракулевых авечак.

Адначасова з вялікімі дасягненнямі ў народнай гаспадарцы Туркменія мае вялікія здабыткі ў развіцці навукі, асветы, культуры. Працуе Акадэмія навук і 58 навукова-даследчых інстытутаў і навуковых устаноў, 1653 агульнаадукацыйныя школы ўсіх відаў і 29 сярэдніх спецыяльных школ, 5 вышэйшых навучальных устаноў. У рэспубліцы дзейнічае 6 прафесіянальных тэатраў, кінастудыя «Туркменфільм», тэлевізія, радыё; выходзіць 85 газет, часопісаў і іншых перыядычных выданняў. (мг)

## ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ПЕСНІ

(Працяг са стар. 5)

Пад гром артылерыйскай кананады смельчакі перайшлі пярэдні край абароны ворага, кароткім смелым ударам выбілі немцаў і авалодалі вышынёй 241,1. Толькі паспелі яны далажыць па радыё камандаванню аб паспяховым выкананні першай часткі задання, як пачаліся шалёныя контратакі. Немцы лезлі нахабна, не лічачыся са стратамі. На вышыню пасыпаліся сотні снарадаў, мін. Наступная радыёграма была ўжо трывожная: «Я — «Месяц». Мы прымаем бой».

Бой цягнуўся доўга. Апошняя радыёграма паведамляла: «Нас жывых толькі трое». Пасля яе загінуў яшчэ адзін чалавек.

Зусім нядаўна сталі вядомы імёны ўсіх васемнаццаці. Вось яны: Яўгень Парошын, Даніла Дзянісаў, Раман Закамолдзін, Барыс Кігель, Мікалай Даніленка, Пётр Панін, Канстанцін Уласаў, Мікалай Галенкін, Дзмітрый Ярута, Іван Кулікаў, Амільян Белаконаў, Дзмітрый Шляхаў, Герасім Лапін, Гаўрыла Вараб'ёў, Дзмітрый Ліпавіцар, Пётр Раманаў, Аляксандр Артамонаў, Цімафей Касабіеў.

Засталіся жывымі не трое, а толькі двое. Калі воіны 718-га палка прыйшлі на выручку, яны знайшлі на вышыні аднаго радавога Герасіма Лапіна. Цяжка параненага сержанта Канстанціна Уласава гітлераўцы захапілі ў палон, але ў мітусні бою ён здолеў уцячы. Да прыходу аднапалчан вышыню абараняў толькі Герасім Лапін.

У складзе дывізіі знаходзіўся ў той час паэт Міхаіл Матусоўскі — карэспандэнт адной ваеннай газеты. На яго вачах васемнаццаць герояў пайшлі выконваць сваё заданне. Разам з камандзірам ён жадаў ім поспеху, разам з усімі даведаўся аб змесце апошняй радыёграмы. Пад гэтым настроем Матусоўскі напісаў верш «На безыменнай вышыні», які быў надрукаваны ў армейскай газеце. Амаль праз дваццаць год гэты верш, пакладзены кампазітарам В. Баснерам на музыку, загучэў у фільме «Цішыня». Песня хутка стала папулярнай у краіне.

*І. Крыскавец*

## На безымянной высоте

*Слова М. Матусовского*
*Музыка В. Баснера*

Дымилась роща под горою,
И вместе с ней горел закат.
Нас оставалось только трое
Из восемнадцати ребят.

Как много их, друзей хороших,
Лежать осталось в темноте
У незнакомого посёлка
На безымянной высоте.

Светилась, падая, ракета,
Как догоревшая звезда.
Кто хоть однажды видел это,
Тот не забудет никогда.

Он не забудет, не забудет
Атаки яростные те
У незнакомого посёлка
На безымянной высоте.

Над нами «мессеры» кружили,
И было видно, словно днём,
Но только крепче мы дружили
Под перекрёстным артогнём.

И как бы трудно ни бывало,
Ты верен был своей мечте
У незнакомого посёлка
На безымянной высоте.

Мне часто снятся те ребята —
Друзья моих военных дней,
Землянка наша в три наката,
Сосна сгоревшая над ней.

Как будто вновь я вместе с ними
Стою на огненной черте
У незнакомого посёлка
На безымянной высоте.

## Куток практычных ведаў




### ЯК ЛЯЧЫЦЦА ЗІМОЙ

Зіма ў гэтым годзе цёплая, мокрая, капрызная і няроўная. А ў такую пагоду найлягчэй захварэць. У вялікі мароз, калі стаіць сухое і здаровае паветра, не так лёгка прастудзіцца. Сібіракі, напрыклад, дзе 30—50° марозу — зімой справа звычайная, так часта, як мы, не хварэюць.

Што рабіць, калі мы ўжо прастудзіліся?

Дактары раяць у ніякім выпадку не прымаць адразу антыбіётыкаў, ды наогул вельмі моцна дзейнічаючых лекаў — пакіньце іх на цяжэйшую хваробу. Бо часамі здараецца так, што калі трэба сапраўды прымяніць нейкі моцны лячэбны сродак, дык ён на арганізм ўжо не дзейнічае, паколькі той ужо да яго прывык.

Пры звычайнай прастудзе дастаткова прымаць каля трох таблетак у дзень кальцыпірыну ці аспраколю. У апошні час лекары не раяць прымаць адначасова вітамін С, які паводле распаўсюджанага погляду дапамагае арганізму паспяхова змагацца з катарам, з прастудай, а нават і грыпам. Справа ў тым, што арганізм і так яшчэ дастаткова насычаны гэтым вітамінам, паколькі да позняй восені мы маем магчымасць спажываць вялікую колькасць гародніны і фруктаў.

Больш таго, калі вітамін С ужываць у вялікіх дозах і часта, ён можа сур'ёзна зашкодзіць арганізму, даводзячы ў некаторых выпадках аж да каменняў у нырках ці вантробе. Калі ўжо нехта адчувае асаблівы недахоп вітаміну С, дык павінен прымаць маленькія 50-міліграмавыя таблеткі тры разы ў дзень на працягу кароткага часу. Зімой аднак нам пагражае не толькі прастуда. Каля 25 працэнтаў усіх дарослых у нашай краіне мае павышаны ціск крыві. Змены атмасфернага даўлення і тэмпературы зімою вельмі даюцца ім у знакі. Яны часта наракаюць на болі ў мышцах, сэрцы, жалудку.

Зразумела, калі вы адчуваеце сябе вельмі дрэнна і маеце моцныя болі, то неабходна звярнуцца да доктара, які ў такім выпадку прыпіша нейкія лекі з даволі моцным уздзеяннем на сэрца, нервы, ці мышцы. І калі вы будзеце сістэматычна лячыцца, то арганізм з часам можа зусім знячуліцца на ўсялякія змены пагоды.

У такіх выпадках трэба перш за ўсё перастаць курыць. Курэнне ў такім выпадку толькі паглыбляе стан раздражнення, песімізму, сімптомы хваробы. Трэба таксама ўжываць як найменш кухоннай солі. Зімой наогул неабходна ўнікаць салоных і вострых страў. Неабходна таксама старацца добра спаць. Трэба класціся спаць як мага раней.

Людзі, якія маюць хворы жалудак, павінны прытрымлівацца малочна-бялковай дыеты. Неабходна адставіць на бок вострую папрыку, воцат, наогул марынады, алкаголь, а нават і моцны чай.

*Эскулап*




Альтэнкірх з Будэрам адразу ўскочылі на ногі. Іх ахапіла дзікая радасць ад таго, што вандраванні іхнія, нарэшце скончыліся, але ім было крыху нялёмка, што чалавек гэты заспеў іх у такім бездапаможным стане.

— Я чуў вашы галасы, яшчэ калі вы ў лес прыйшлі, — сказаў Вайтхазе. — З таго часу і сачу за вамі.

Толькі цяпер Альтэнкірх зусім ачнуўся ад нечаканасці і адрэкамендаваўся.

— Мы спусціліся тры дні таму назад, — дадаў ён, — і адразу накіраваліся сюды.

— Вось і прыйшлі, — у голасе Вайтхазе прагучала радаснае ўзрушэнне.

Патрэслі адзін аднаму рукі, наспех абмяняліся першымі найбольш важнымі пытаннямі: ці прывезлі яны з сабою рацыю, ці існуе яшчэ група Грэльхамера, ці скінуў самалёт харч і боепрыпасы. Потым да іх далучыўся чалавек, які дагэтуль ляжаў, прыпаўшы да зямлі ля першых дрэў, — цыбаты бамбіза, якога Вайтхазе адрэкамендаваў як Франке. Тады Альтэнкірх паклікаў Мартынава. Вайтхазе працягнуў рускаму руку, з такім выглядам, нібы яго зусім не здзівіла тое, што ён стрэў тут савецкага афіцэра.

— Ад Уласава, — растлумачыў Альтэнкірх, і Вайтхазе сказаў:

— Ясна.

Вайтхазе павёў іх у глыб лесу. Ён ішоў упэўнена, быццам ведаў тут кожнае дрэўца. Пачалі прабірацца праз балота, па якім Альтэнкірх сам нізавошта б не адважыўся ісці, і, нарэшце, спыніліся ў гушчары.

— Сюды ні адна жывая душа не забрыдзе, — запэўніў Вайтхазе. — Тут, як у Хрыста за пазухай.

Паклалі зброю і рукзакі на зямлю, паселі. Альтэнкірх пачаставаў Вайтхазе і Франке цыгарэтамі, і тыя з прагнасцю закурылі. Альтэнкірх паведаміў пра унтэр-афіцэра Кноблаха, пра задуму генерала і эсэсаўскага афіцэра, пра атрыманае ім заданне, пра дэсантную аперацыю. Ад Вайтхазе ён даведаўся, што цяпер у групе Грэльхамера ўжо не тысяча пяцьсот чалавек, а крыху больш за тысячу дзвесце чалавек, салдат і афіцэраў, поўных адвагі і гатовых да баявых дзеянняў; аднак сядзяць яны амаль без правіянту, і ўжо зусім канчаюцца боепрыпасы.

— Нам добра дасталася, але і ім не менш, — адказаў Вайтхазе і ўсміхнуўся.

— Мяне толькі здзіўляе тое, што наш рускі нам расказаў, — прамовіў Альтэнкірх і загадаў Мартынаву паўтарыць, што яму ўдалося выведаць ад селяніна.

— А дзе гэта было? — запытаў Вайтхазе, калі Мартынаў скончыў свой расказ. Уласавец назваў вёску.

— У тых мясцінах цяпер ціха, — сказаў Вайтхазе і растлумачыў: — Спачатку ядро нашай групы знаходзілася адтуль за дваццаць кіламетраў на поўнач, але цяпер нас адцяснілі амаль на сорак кіламетраў. Вядома, не ў інтарэсах Саветаў паведамляць народу, што тыл іхняй арміі не цалкам яшчэ ачышчаны ад нашых войск. У цяперашні момант галоўная наша задача — атрымаць харчовыя прадукты і боепрыпасы. Першы час мы рабілі вылазкі і тое-сёе даставалі, аднак цяпер з гэтым стала цяжэй.

Мартынаў уважліва прыслухоўваўся да гутаркі. Ён быў рады, што застаўся з Альтэнкірхам і Будэрам — цяпер ён ведае больш, чым раней, хоць, праўда, яшчэ малавата. Ён выразна ўяўляў сабе, што азначалі вылазкі з мэтай здабыць харч: забіралі апошнюю карову, апошнюю курыцу, увозілі апошнія мяшкі з хлебам і, вядома, з насеннем для пасеваў. Мартынава апанавала неадольнае жаданне расстраляць гэтых чатырох фашысцкіх гадаў, але прымусіў сябе стрымацца, гаворачы сабе, што справа ідзе не аб чатырох ворагах, а ў трыста разоў больш — аб усёй групе Грэльхамера. «Хай жывуць, — разважаў ён, — пакуль не даведаюся пра ўсё, а тады ўжо яны загінуць ад майго аўтамата. У гэтай вайне я паспеў выпусціць толькі чатыры кулі, і ніводная з іх ні ў каго не трапіла. Я выстралю яшчэ чатыры разы, і кожная куля знойдзе сваю цэль».

— Давайце добра адпачнем, — прапанаваў Вайтхазе. — А ноччу рушым туды, дзе вы схавалі рацыю, і пашлём першую радыёграму.

— А я думаў, — сказаў Альтэнкірх, — што мы выйдзем на сувязь, толькі калі далучымся да палкоўніка Грэльхамера.

— На гэта ў нас часу не хопіць, — адказаў Вайтхазе. — Франке паведаміць Грэльхамеру пра ваша прыбыццё. У яго ногі, як у аленя, — фенамен: за



 

# ТРЫБУНА чытачоў




Дарагое «Сэрцайка!»

Мне 18 год. Вучуся ў агульнаадукацыйным ліцэі ў горадзе Б. У нашым класе вучацца толькі дзяўчаты. Нядаўна хлопцы з тэхнікума запрасілі наш клас да сябе на забаву. Мы ахвотна скарысталі з запрашэння. Забава была сапраўды ўданай. І вось на гэтай забаве я пазнаёмілася з хлопцам — Чэсек ён завецца. Мы разам гулялі ўвесь вечар. Ён прыстойны, чарнявы хлапец, вельмі мне спадабаліся яго культурныя паводзіны на забаве. Пасля забавы Чэсек адвёў мяне на аўтобус, бо я жыву на акраінах горада. Ідучы, мы дамовіліся, што Чэсек прыедзе да мяне дахаты ў наступную нядзелю. Я чакала. Але ўжо пад вечар прыйшла да мяне сяброўка і запрапанавала паехаць у горад — у кіно. Я спачатку адмовілася, бо чакала хлопца, але яна мяне перакանала, што калі да гэтай пары не прыехаў, дык няма чаго чакаць. Мне было прыкра, што Чэсек так мяне ашукаў. А я думала, што гэта хлапец салідны, так ён мне спадабаўся. У горадзе спаткалі мы яшчэ сяброўку з двума хлопцамі і ўсе разам пайшлі ў кіно. Непадалёку кіно я ўбачыла Чэська. Стаяў з хлопцам, якога я бачыла на забаве. Прайшлі мы побач. Не зачапіў ён мяне, я таксама прайшла, як бы яго не ўбачыла. Мільганула ў мяне думка, што, пэўна, чакае нейкую дзяўчыну. Мне было яшчэ больш прыкра і сорамна, бо сяброўка аб усім ведала, яна была разам на забаве. Аб хлопцу я падумала самае найгоршае. Але вось у панядзелак, калі я вярнулася са школы, сястра падала мне паштоўку. У ёй Чэсек пісаў, каб спаткацца ў нядзелю каля кіно. Гадзіна спаткання супадала з часам, калі мы праходзілі каля кіно. Я вельмі знервавалася. Усяму ж вінавата тое, што паштоўка прыйшла спозненай. Я страшна перажываю. Парай, «Сэрцайка», як спаткацца мне з Чэськам. Не ведаю я ні прозвішча яго, ні класа — дык напісаць да яго не магу.

*Еля з Б.*

Еля! Не ўсё страчана, непатрэбна так пераймаешся! Чэсек мае твой адрас, дык калі яму сапраўды на табе залежыць, дык напіша, або прыедзе. Мо крыху пачакае, бо яму ж таксама прыкра, што ты не прыйшла на спатканне (аб спозненай паштоўцы ён жа не ведае), тым больш што ён цябе бачыў. Раней ці пазней справа высніцца і напэўна будзе ўсё добра, чаго і жадае табе «Сэрцайка»

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

■ 26.I.73 г. згарэла клуня Надзеі Буйнюк з Краснаўсі Бельскага павету. Страты каля 80.000 зл.

■ 28.I.73 г. у Трасцянцы Гайнаўскага павету Рамуальд Проньчук з Беластока, які ехаў «Варшавай», падбіў Агату Філіпюк. Яна трапіла ў шпіталь.

адну ноч можа адолець трыццаць кіламетраў, і не нарадзіўся яшчэ той рускі, які схопіць яго.

— Дык што, мне зноў назад? — сонным голасам запытаў Франке.

— А заўтра ноччу прыйдзеце ў тое месца, дзе знаходзіцца рацыя. Прынясеце першую дэпешу Грэльхамера для адпраўкі камандаванню.

На карце Альтэнкірха яны вызначылі найлепшы маршрут для Франке і намалявалі на паперцы. Потымляглі спаць, не выставіўшы варты, бо Вайтхазе сказаў, што ў гэтым няма ніякай патрэбы. Пасля паўдня яны адзін за адным прачнуліся. Марна патрацілі час, шукаючы які-небудзь ставок з незацвілай вадой, паелі сухама, закурылі. Вайтхазе расказаў пра баявыя дзеянні грэльхамерскай групы, пра панесеныя страты, пра дыверсіі на чыгуначных пуцях, налёты на вёскі. Рускія паспрабавалі засеяць жытам некалькі палеткаў, але людзі Грэльхамера перастралялі іхніх коней. Баявыя атрады выходзілі далёка за межы аператыўнай базы і наносілі ўдары па савецкіх камунікацыях забеспячэння, і калі два апошнія тыдні актыўнасць крыху спала, дык толькі таму, што ўсё мацней і мацней адчуваецца недахоп прадуктаў харчавання і боепрыпасаў.

— Праз дзве-тры ночы вы атрымаеце першую партыю харчу і зброі, — паабяцаў Альтэнкірх.

*(Працяг будзе)*

### ЁЛКА

Як штогод, так і цяпер, 27 студзеня, у Дубічах Царкоўных у святліцы адбылася навагодняя ёлка для вучняў нашай школы. Пасля мастацкай часткі Дзед Мароз раздаваў дзецям падарункі. Можам уявіць, які гэта для дзіцяці момант. Вочы ў дзяцей гарэлі ад захаплення. Немагчыма было пазнаць Дзеда Мароза: па-мастацку быў апрануты Рыгор Марчук.

На заканчэнне ўрачыстасці адбылася забава для школьнікаў. На акардэоне іграў гарманіст Яўген Леўчук.

*М. Панфілюк*




### БЯРОЗКА

Расце пры дарозе бярозка,
Лісточкі ад ветру дрыжаць,
Галінкі, як косы павіслі,
Штось сумна яны шалясцяць.

Штось шэпчуць таму бугарочку,
Што тут пад бярозкаю ўзрос.
Не раз тут яго пякло сонца,
Не раз пёк і цiснуў мароз.

Здаецца, з зямлёю гаворыць
Пра дзедку, што ямку капаў,
Пра стойкіх ў салдацкіх шынелях,
Што ў цёмну магілу паклаў.

Жылі б, мабыць, доўга, шчасліва,
Пажыць ім даўжэй не далі.
Грудзьмі гарадзілі дарогу,
Змог вораг, яны палеглі.

Змагацца было вельмі цяжка,
Забыць той пары не магу.
Кляліся байцы, што фашыстаў
Задушаць у іх бярлагу.

І клятву сваю датрымалі,
Загнаўшы разбойнікаў ў клін.
Свабодна дыхнула Еўропа,
Як нашы забралі Берлін.

Пакуль мы змаглі тую сцерву,
Нямала зрабіў шкоды гад.
Хачу я тут трохі спыніцца
І з вершам вярнуся назад.

Ўжо выйшлі байцам ўсе патроны,
Ёсць толькі на ружжах штыкі.
Рашылі ў палон не здавацца,
Не даць выдраць зброі з рукі.

Схапіліся смела ў атаку,
Па іх застрачыў аўтамат.
Скасілі, як траўку касою,
Трох смелых савецкіх салдат.

Заданне сваё адстаялі,
За шчасце, свабоду умярлі
Героі, байцы, камсамольцы,
Сыны беларускай зямлі.

Ішоў зараз сюдою старэнькі,
Бярозку ў дарозе сустрэў.
Пад ёю пазнаў сваго сына,
Стаў сівы, зусім пастарэў.

І белы стаяў, як бяроза.
Не знаю, што думаў Піліп.
Двух старшых пашло ў партызаны,
Сягоння малодшы пагіб.

Дзярном аблажыўшы магілу,
Абцёр з галавы поту шмат.
Прыпомніў, што мае ў кішэні
Праўдзівы нямецкі гранат.

І выйшаў ісці на дарогу,
Ў той момант зноў немцы ёсць тут.
Прыціснуў мацней ён гранату:
Зрабіць трэба гіцлям «капут».

Затрымалі швабы, шваргочуць,
Быў поўны іх там грузавік.
Смяюцца, балбочуць, рагочуць:
«Du bist komunist, bolschewik?»

Стаяў каля самай машыны,
Схапілі і душаць за рот,
А ён памаленьку з кішэні
Ўпусціў ім гранату за борт.

Як гром, загрымела граната,
Ў кавалкі пайшоў грузавік,
Адбег і упаў на магілу
Смяртэльны ўжо «дзед-бальшавік».

Тут разам яго пахавалі,
Дзе лёг яго слаўны Кастусь.
Цяпер пра іх песню складаюць
І славіць іх ўся Беларусь.

Бярозка здаецца не тая,
Ўсё вышэй і вышэй расце.
Зімою стаіць, як дзяўчына,
Вясною, як кветка, цвіце.

*Ян Манюшка,*
*Трыпуце*

### У ТАПАЛЯНАХ ХАКЕЙ

Нядаўна пісаў я аб прыгожым катку ў Тапалянах. А 28 студзеня гэтага года адбылася на ім першая хакейная сустрэча. Спаборнічалі мясцовая падставовая школа са школай механізацыі сельскай гаспадаркі ў Міхалове. Розыгрыш звярнуў на сябе ўвагу не толькі тапалянцаў, але і жыхароў Міхалова. Горача апладзіравалі, між іншым, камендант МО, прэзас ГС і іншыя. Гульня закончылася перамогай (15:11) дружыны з Тапалян. Брава трэнеру маладых тапалянскіх хакеістаў Станіславу Гаеўскаму!

*Мікола Краўчук,*
*Патока*

### НАВАГОДНЯЯ ЁЛКА

20.I.73 г. у падставовай школе ў Цялушках адбылася навагодняя ёлка. Прышло многа людзей. На гэту ўрачыстасць школа падрыхтавала некалькі цікавых пастановак, а школьны хор пад кіраўніцтвам настаўніка Міхася Матвеюка — 13 песняў.

Пасля мастацкай часткі з'явіўся барадаты Дзед Мароз з прымаўкамі і танцам, які раздаў дзецям падарункі.

На заканчэнне адбылася забава, спярша для дзяцей, потым для дарослай моладзі, выпускнікоў гэтай школы.

*Прозвішча вядома рэдакцыі.*

### СХОД ВЕТЭРАНАЎ

4 лютага ў Дубічах Царкоўных адбыўся сход членаў ЗБоВіД цэлай нашай гміны. Было 99 асоб. З дакладам выступіў Аляксандр Мручынскі з Гайнаўкі. У дыскусіі былі закрануты розныя вясковыя справы. Сход выбраў новае праўленне (9 членаў) і рэвізійную камісію (5 асоб). Выбраны былі і дэлегаты (9 асоб) на павятовы з'езд у Гайнаўцы.

*М. Панфілюк*

### ЗАКАДЗІРАВАЛІ

Жыццё, браткі, вельмі цікавае, толькі, як гаварыў мой знаёмы, трэба ўмець яго выкарыстаць.

Найцікавей жывецца нашым наватарам. Мондры чалавек выдумае якуюсь навасць і мае свежыя грошы (за наватарства, вядома).

Нядаўна была я ў Нязбодцы. Пераацэненую куртку хацелася купіць сваёй нявестцы. Заглянула і на пошту. Толькі ўвайшла, ажно бачу, Бурдзікава Даміся валачэ пачку. Разгаварыліся. Яна і кажа: — Кабетка, каб вы зналі, як жыве мая Валя! Абое навуковымі працаўнікамі ў Гданьску. Дачка такая прыгожая! А зяць! Вельмі разумны чалавек. Бяда толькі, што няма каму па крамах хадзіць. Таму вось і мушу пачкі ім пасылаць, цяляціны троху, троху каўбасы. Бо яны імі вельмі ласуюцца. А калега зяця, калі пакаштаваў, дык пальцы аблізаў і казаў — «люксус».

Толькі хацела яна здаць пачку, як паненка ў моднай спадніцы кажа:

— Пані, тут трэба яшчэ код, — і звярнула пачку.

Даміся здзівілася і кажа:

— Кот? Каб каўбасы пажор!

Усе пакаціліся са смеху. А паненка ў моднай спадніцы, супакоіўшыся, заглянула ў нейкую кніжачку і напісала пяць цыфраў.

Даміся стаяла збянтэжаная і нічога не разумела.

*Суседка Міхаліна*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Суд пры падзеле спадчыны прызнаў сплату наследніку, які быў у той час студэнтам, устанаўліваючы раты па 600 зл. у месяц. Студэнт скончыў навуку, а згодна з рашэннем суда належылася б яму яшчэ каля 20 тысяч сплат. Ці можа ён патрабаваць сплаты гэтай сумы? Ці можа яму быць абніжана сплата, або поўнасцю спынена?

АДКАЗ: Пры падзеле спадчыны, у склад якой уваходзіць сельская гаспадарка, няпоўналетнія і тыя, якім споўнілася 18 год, але яны надалей вучацца, павінны атрымаць грашовыя сплаты. Гэтыя сплаты ўстанаўліваюцца ў поўнай вартасці той часткі, якая прыпадае гэткай асобе, і абніжэнне сплат, якое можа быць прыменена да іншых наследнікаў у адносінах да няпоўналетніх і тых, што вучацца, недапушчальна.

Аднак суд у гэтым выпадку ўстанаўлівае сплаты ў месячных ратах, пры гэтым рата не можа быць большай, чымсьці 1000 зл. Здараецца, што наследніку спаўняецца 18 год, ён заканчвае навуку, калі сплаты поўнасцю не сплачаны. У гэткім выпадку той, хто сплачвае, можа звярнуцца да суда з просьбай спыніць далейшыя сплаты.




*Жыхары Мора.* Як даведаліся мы ў ПРН у Гайнаўцы, чыгуначны прыпынак у вас будзе, калі падрыхтуеце адпаведную пляцоўку, дзе будуць спыняцца цягнікі.

*Міхась Шаховіч, Варшава.* З новых вершаў, якія вы апошнім часам даслалі, найбольш нам спадабаўся верш пра бярозу.

*Янка Грыгарук, Галады.* «Вясну» надрукуем.




### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Nie smuć się" (radz.), 27—28.II. „Doczekać zmroku" (USA), 1—2.III. „Trzej świadkowie" (czeski), 3—4.III.

**Нараўка**
„Trup w każdej szafie" (czeski), „Bajka o Mrozie Czarodzieju" (radz.), 28.II—4.III.

**Нарва**
Gangsterzy i filantropi" (polski), „Ostatnia gra Karina" (radz.), 28.II—4.III.

**Чыжы**
„Życie rodzinne" (polski), „Bajka o zmarnowanym czasie" (radz.), 28.II—4.III.

**Дубічы Царкоўныя**
„Wujaszek Wania" (radz.), „Wojenka, wojenka" (rumuński), 28.II—4.III.

**Арэшкава**
„Oficerowie" (radz.), „Umrzeć z miłości" (franc.), 3—4.III.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Agent Nr 1" (polski), „Jaskółki" (węgierski), 28.II—4.III.

**Орля**
„Przez pustynię" (meksykański,) „Szerokiej drogi kochanie" (polski), 28.II—4.III.

**Райск**
„Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 28.II—4.III

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Cierpienia młodego Bohaczka" (czeski) 27—28.II „Komedia pomyłek" (polski), 1—2.III. „Kopernik" (polski), 3—4.III.

**Шудзялава**
„Ostatnia gra Karina" (radz.), „Podróż za jeden uśmiech" (polski), 28.II—4.III.

**Янаў**
„Niech bestia zdycha" (franc.), 1—4.III.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), „Zaraza" (polski), 28.II—4.III.

**Мельнік**
„Trzej świadkowie" (czeski), „Sól ziemi czarnej" (polski), 28.II—4.III.

**Мілейчыцы**
„Kopernik" (polski), cz. II i III. „Niezawodni przyjaciele" (radz.) 28.II—4.III.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

„Początek nowego świata" (rumuński), „Kajtek i nowy braciszek" (węgierski), 28.II—4.III.

**Новы Двор**

„24 godziny z życia kobiety" (franc.), „Kajtek i siedmiogłowy smok" (węgierski), 28.II—4.III.




**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.592 K-1

